СВАБОДА

Кошт 250 рублёў №26 5 — 11 ліпеня 1994 г.

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар Ігар ГЕРМЯНЧУК
Заснавальнік Павал ЖУК
Выдавец «Газэта СВАБОДА», Ltd.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220088, Менск, вул.Іванаўская, 56
Тэл. 36-24-41

Васіль Быкаў:

# Надыходзіць змрочны час

**3 ліпеня калёна БНФ не змагла прайсьці да помніка Перамогі, каб ушанаваць памяць палеглых у другой сусьветнай вайне.**

Гэтую калёну пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, у якой ішлі вэтэраны, грамадзкія і палітычныя дзеячы, актывісты Народнага Фронту, двойчы спынялі шэрагі міліцыянтаў. У трэці раз спынілі перад самым пляцам Перамогі. Падбегла некалькі дзясяткаў адстаўнікоў і нейкіх малойчыкаў. «Толькі праз мой труп пройдзеце!» — крычаў маёр-адстаўнік. У гэты дзень на пляцы Перамогі гаспадарылі тыя, хто абараняў не сваю Радзіму, а сталінскі таталітарызм.

«Спэкуляцыяй на чужой крыві» — назваў гэты вэрхал на прэс-канфэрэнцыі ў панядзелак Зянон Пазьняк. «Большага хамства, подласьці, большай зьнявагі да свайго народу я яшчэ ня бачыў», — сказаў лідэр БНФ.

Мікалай Крукоўскі (былы камандзер партызанскага атраду) паведаміў, што супраць вэтэранаў, якія ішлі ў калёне БНФ, была ўжытая сіла. Шалёная група са сьцягамі часоў СССР зьбіла з ног і ледзь не затаптала пажылую жанчыну, а ў самога сп.Крукоўскага, гэтая азьвярэлая публіка пачала зрываць баявыя ўзнагароды.

Як сказаў на прэс-канфэрэнцыі Васіль Быкаў, адгэтуль у гісторыі Беларусі пачаўся новы перыяд — панаваньне камуна-фашыстоўскіх сілаў.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**



**На здымку: дзевяць шэрагаў АМОНу і міліцыі на пляцы Перамогі ўтварылі кардон перад калёнаю Народнага Фронту.**

Народ выбірае «свайго мужыка» *стар.2*

Першая «рэліквія» ядравага раззбраеньня *стар.4*

Габрэйскія партызаны таксама хацелі есьці *стар.5*

Выбух каля рэдакцыі СВАБОДЫ *стар.8*

## Грамадзянінам можаш ты ня быць...

**Рэдакцыі СВАБОДЫ сталіся вядомымі факты, што ў выбарах Прэзыдэнта Беларусі ўдзельнічаюць грамадзяне іншых краінаў, а таксама асобы без грамадзянства.**

Рэч у тым, што выбарчыя камісіі ўключылі ў сьпісы выбаршчыкаў усіх, хто прапісаны на тэрыторыі Беларусі. Між тым далёка ня ўсе прапісаныя ёсьць грамадзянінамі краіны. Маем факты, што запрашэньне на выбары атрымалі нават супрацоўнікі замежных пасольстваў, у прыватнасьці, грамадзяне некаторых краінаў СНД.

**Іван СІДАР**

## Кажуць, што пачалася чэкавая прыватызацыя

**1 ліпеня ў Беларусі пачалася чэкавая прыватызацыя.**

Грамадзяне рэспублікі, якія маюць сэртыфікаты аб наяўнасьці ім імянных прыватызацыйных чэкаў, могуць абмяняць іх на акцыі любога з 61 прыватызуемага прадпрыемства, сьпіс якіх быў апублікаваны ў друку. Цэнтральныя і раённыя аддзяленьні ашчадных банкаў ужо пачалі праводзіць апэрацыі па абмену чэкаў на акцыі.

**Ірына САЗАНОВІЧ**
**БелаПАН**

## Усе на абарону «народнага героя»!

**Лукашэнка працягвае нагнятаць псыхоз вакол сваёй пэрсоны.**

У вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёну каля дома, дзе жыве сям'я Лукашэнкі, зь мінулай суботы дзяжураць узброеныя міліцыянты тамтэйшага РАУС. Іх выставілі на загад міністра ўнутраных справаў, якому Лукашэнка нібыта заявіў, што ягоных дзяцей нехта зьбіраецца выкрасьці.

Можна ўявіць, што будзе, калі Лукашэнка стане Прэзыдэнтам — на ягоную ахову можа не хапіць міліцыі і КДБэшнікаў.

**І.С.**



## Беларусь у чарговы раз „аб'ядналася“ з Расеяй

**3 ліпеня ў Заслаўі пад Менскам В.Кебіч і В.Чарнамырдзін разам з галоўным банкірам Расеі В.Герашчанкам і нам. старшыні Беларускага нацыянальнага банку М.Кузьмічом падпісалі «Пратакол аб ходзе рэалізацыі Дамовы аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі».**

Гэты Пратакол (4 пункты, адна старонка тэксту) экспэрты газэты СВАБОДА расцэньваюць як «пустую паперку». У прыватнасьці, пункт 4: *«Бакі пры неабходнасьці ўнясуць зьмены ў артыкулы 4, 5, 6, 7, 8 Дамовы* (аб аб'яднаньні грашовых сыстэмаў. — Рэд.) *шляхам абмену лістамі праз міністэрствы замежных справаў Рэспублікі Беларусі і Расейскай Фэдэрацыі».* Гаворка якраз ідзе пра тыя артыкулы Дамовы, якія датычаць абмену грошай, статусу Белнацбанку, кансалідацыі беларускага і расейскага бюджэтаў, рэгуляваньня зьнешнеэканамічнай дзейнасьці.

Падымаючы келіхі з шампанскім пасьля падпісаньня Пратаколу, Кебіч павярнуўся да фотарэпартэраў і голасна сказаў: «А цяпер — здымак для газэты СВАБОДА».

Дзякуй, Вячаслаў Францавіч. Мы абяцаем апублікаваць гэты здымак іншым разам, а сёньня публікуем тое, што вы бачыце.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

**Віктар Чарнамырдзін любіць Беларусь, а Вячаслаў Кебіч — Чарнамырдзіна.**

# У адпачынак з пустой кішэняй

**За першыя пяць месяцаў сёлетняга году выпуск прадукцыі на гарадзенскіх прадпрыемствах скараціўся на 51% што да леташняга.**

Прастоі склалі больш за мільён чалавека-гадзін (вось такая дзіўная адзінка вымярэньня). Прадпрыемствы працуюць па 3—4 дні ў тыдзень. Асноўная праблема — нявыплаты, прычым пераважна за электрычнасьць і газ. Увесь ліпень ня будзе працаваць гарбарны завод, 10 дзён — завод такарных патронаў і г.д. 8069 рабочых гарадзенскіх прадпрыемстваў выпраўленыя ў адпачынак без захаваньня заробку.

С.А.

# Палюховіч хацеў купіць яшчэ адну краму

**Прэзыдэнт добра вядомай фірмы «Дайнова» Адам Палюховіч удзельнічаў у гарадзенскім аўкцыёне.**

Пад нумарам 506 ён змагаўся за права выкупіць у арэнду на 10 гадоў магазін «Навінка». Пакупка не атрымалася, але ў аўкцыйнай гонцы калектыву самой крамы давялося пагадзіцца на вельмі вялікую цану — 4 млрд. 800 млн. рублёў. Пачатковую яна перавысіла ў 170 разоў.

Усе астатнія аб'екты таксама былі прададзеныя альбо ў арэнду, альбо ва ўласнасьць. Апроч лазьні ў старой частцы горада, якую аўкцыяністы зьнялі з таргоў. Лазьня прадавалася ўжо пад заслону. У бізнэсмэнаў, пэўна, скончыліся да таго часу грошы. Ніхто не прапанаваў за аб'ект прылiковае сумы, а таму лазьню і не прадалі.

Гарадзенскія таргі, магчыма, адзіныя ў Беларусі, праводзяцца па-беларуску. У ролі аўкцыяніста выступае вядомы бард і актор Віктар Шалкевіч. Ён таксама правёў нядаўна першы аўкцыён у Лідзе.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Высьветлілі дачыненьні з мытнікамі

**Кіраўнікі гарадзенскіх прадпрыемстваў сустрэліся з мытнікамі.**

Першыя мелі да іх вялікія прэтэнзіі. Праз новыя мытныя правілы цярпіць бізнэс. Прыкладам, каб спагнаць адпаведны падатак, мытнік павінен ведаць кошт тавару. Аднак праз інфляцыю кошты хутка зьмяняюцца. Пакуль уладальнік грузу ўдакладняе іх, затрыманы кантэйнэр застаецца на мяжы, і даводзіцца аплочваць непрадбачаны прастой.

С.А.

# Дзе твае даляры?

**Лукашэнка яшчэ ня стаў Прэзыдэнтам, а ўжо паспеў сваімі заявамі стварыць праблемы «на роўным месцы».**

Нядаўна ён публічна й галосна папярэдзіў адпаведныя службы, што сёньня ў замежныя банкі вывозяць шмат валюты. Пасьля гэтага на мяжы ў Брузгох каля Горадні абавязкова сталі спраўджваць дэкларацыі асобаў, якія вяртаюцца з Польшчы. Прыкладам, калі запісаў пры выезьдзе, што маеш 100 даляраў, дык у цябе пацікавяцца, дзе ты іх падзеў за мяжой. Даводзіцца даваць справаздачу: колькі праеў і прапіў, а колькі, можа, выкарыстаў на дзяўчат. Брава, Лукашэнка!

С.М.

# Вайсковы шпіталь зачыняюць

**У Міністэрстве абароны вырашана зачыніць Ваўкавыскі вайсковы шпіталь.**

Адстаўныя афіцэры й вэтэраны вайны Ваўкавыска адаслалі ліст да прэм'ер-міністра. Яны просяць скасаваць рашэньне, спасылаючыся на тое, што шпіталь абслугоўвае ці мала вайскоўцаў і адстаўнікоў зь іншых раёнаў: Мастоўскага, Зэльвенскага, Сьвіслацкага, Слонімскага. Невядома, што ім адкажа Кебіч і ці адкажа ўвогуле. Аднак зразумела наперад, што беларускаму войску, натуральна, не ўтрымаць гэтулькі шпіталёў, якія абслугоўвалі некалі больш як 200-тысячную вайсковую групоўку.

В.В.

# Гадуцішкі мусяць быць беларускімі, а тэрыторыя краіны — недатыкальнаю

За мінулыя два тыдні МЗС Беларусі накіраваў ураду Летувы некалькі нотаў пратэсту.

Адна зь іх датычыць памежных інцыдэнтаў. У прыватнасьці, 26 траўня літоўскія паліцыянты нашых грамадзянаў В.Карповіча і С.Маркевіча, якія вярталіся ў Беларусь і ня выканалі патрабаваньне спыніцца, паглыбіліся ў тэрыторыю Беларусі на 500 мэтраў у раёне населенага пункту Ажуболі Воранаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці, ужылі табельную зброю й фізычную сілу ў дачыненьні да вышэйзгаданых грамадзянаў Беларусі.

29 траўня сёлета літоўскі паліцэйскі камісарыят у раёне пункту пропуску «Доцішкі» праводзіў апэрацыю затрыманьня супрацоўніка Воранаўскай мытні І.Рыдвана падчас атрыманьня хабару. Падчас затрыманьня паблізу дзяржаўнае мяжы літоўскія паліцыянты ўжылі зброю. Такім чынам, па віне прадстаўнікоў літоўскай паліцыі паблізу ад дзяржаўнай мяжы былі створаныя сытуацыі, якія несьлі пагрозу для жыцьця вайскоўцаў памежных войскаў і мясцовага насельніцтва Рэспублікі Беларусі і якія маглі выклікаць непажаданы інцыдэнт на мяжы.

Памежнымі ўладамі Літоўскай Рэспублікі ў парушэньне Часовага Пагадненьня паміж урадамі Беларусі і Летувы 4 чэрвеня сёлета без афармленьня адпаведных дакумантаў (акт аб прыёме-перадачы грамадзянаў) і без паведамленьня былі вытураныя з тэрыторыі Летувы на тэрыторыю Беларусі на электрацягніку «Марцінкеніс—Горадня» 32 грамадзяніны Індыі і 32 грамадзяніны Пакістана.

У ноце падкрэсьліваецца, што падобныя незаконныя дзеяньні «маюць месца ўжо ня ў першы раз» і калі іх не спыніць, гэта можа «дэстабілізаваць сытуацыю ў беларуска-літоўскім памежжы, нанесьці страты добрасуседзкім адносінам паміж нашымі краінамі».

Дзьве другія ноты датычаць вядомай гісторыі з разборам чыгуначнага палатна на станцыі Гадуцішкі.

Дарэчы, карэспандэнту СВАБОДЫ стала вядома, што беларуская дэлегацыя, якая вядзе зь Летувою перамовы па дэлімітацыі й дэмаркацыі дзяржаўнай мяжы, атрымала зь Вярхоўнага Савету пісьмовае даручэньне кіравацца на перамовах тым фактам, што Гадуцішкі зьяўляюцца ўласнасьцю Беларусі. На выпадак, калі вырашэньне гэтага пытаньня будзе зацягвацца, Савету Міністраў даручана „прадугледзець магчымасьць правядзеньня па тэрыторыі Рэспублікі Беларусі дадатковага (паралельнага) чыгуначнага палатна".

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

# Выбары й каўбаса

**Параза Кебіча ў Лідзе (15% галасоў), дзе жыве шмат адстаўнікоў і стаіць нямала войска, на першы пагляд не зусім зразумелая.**

З аднаго боку, яна тлумачыцца вялікім уплывам Пазьняка, які заняў першае месца (31,8%). Але не апошнюю ролю, мабыць, адыграла і тое, што ў горадзе было вельмі кепска зь мяснымі прадуктамі, паколькі ў чэрвені з прычыны рамонту не працаваў мясакамбінат. Думаю, што ў другім туры выбараў прэм'еру нельга чакаць посьпеху і ў Горадні, дзе ён за першым разам набраў 16% галасоў і заняў 3-е месца. Рэч у тым, што Гарадзенскі мясакамбінат з 1 па 25 ліпеня таксама зачынены на рамонт.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Гарнітуры для журналістаў

**Пэўная гарадзенская фірма выступіла спонсарам абласнога тэлерадыёкамітэту, выдзеліўшы ўсім супрацоўнікам-мужчынам бурнатыя гарнітуры-тройкі коштам па 300 тыс. рублёў.**

На жаль, ня ўсе здолелі выбраць абноўку на свой памер.

**Г.ВЕРАМЕЙЧЫК**

# У Магілёве зноў «Магутны Божа»

**З 11 па 16 чэрвеня ў Магілёве пройдзе другі міжнародны фэстываль духоўнай музыкі «Магутны Божа».**

Аналягічную леташнюю імпрэзу беларуская афіцыйная прэса дружна праігнаравала. Рэч у тым, што зь ініцыятывай правядзеньня фэсту «Магутны Божа» выступіла парафія магілёўскага касьцёлу Сьв. Станіслава. Нягледзячы на тое, што да ўдзелу запрашалі прадстаўнікоў усіх канфэсіяў, кіраўніцтва Экзархату Рускай Праваслаўнай Царквы да гэтай ідэі агульнахрысьціянскага яднаньня чамусьці паставілася варожа. Больш за тое, праз тры тыдні пасьля заканчэньня першага міжнароднага фэстывалю рэлігійнае музыкі ў Магілёве адбыўся чын кананізацыі архірэя Георгія Каніскага, вядомага змагара з «уніяцка-каталіцкай экспансіяй», які напрыканцы XVIII ст. неаднаразова зьвяртаўся да Кацярыны II з просьбамі аб падзелах Рэчы Паспалітай діз інкарпарацыі Беларусі ў склад Расейскай імпэрыі.

Такім чынам, як і ў сярэднявеччы, Магілёў зноў стаў месцам рэлігійнай канфрантацыі. Але ненадоўга. Бо ўдзел у другім фэстывалі «Магутны Божа» праваслаўныя ўсё ж такі прымуць. Прынамсі, блаславіў праваслаўныя... дабраславеньне мітрапаліта Філарэта на тое ўжо ёсьць.

Аднак, як паведаміў карэспандэнту СВАБОДЫ старшыня аргкамітэту фэстывалю сп.Алесь Аляксеенка, камусьці ўсё роўна вельмі хочацца, каб захоўвалася напружанасьць. Так, амаль штодня у аргкамітэце гучаць званкі з лаянкай і пагрозамі. Тэлефануюць нават нейкія мітычныя «дактары», якія кажуць, што падчас леташняга фэстывалю ў Магілёве пабольшала захворвальных на карасту й сыфіліс.

**Сяржук ІВАНОЎСКІ**

# Бабілён па-над Нёмнам

**Пры бальшавіках у Горадні яшчэ сяк-так трывалі цэрквы ды касьцёлы. Зруйнавалі, бадай, толькі найвялікшую Фару Вітаўта. А сёньня горад пачынае рабіцца нават больш многаканфэсійным, чым быў пры самым Вялікім князі Вітаўце.**

Неўзабаве адбудзецца ўздым сакральнага будаўніцтва. Немцам ужо перадалі кірху, габрэям — сынагогу. У канцы году ў мікрараёне Дзевятоўка пачне будавацца сучасны касьцёл. Рыхтуецца дакумантацыя на новы вялікі праваслаўны сабор, ужо будуецца хрысьцільня. Спраектаваныя мячэць і будынак хрысьціянскай місіі «Добрая вестка». З просьбай вылучыць пляцы для храмаў зьвярнуліся да гарадзкіх уладаў Новаапостальская царква і эвангелічныя хрысьціяне ў духу апосталаў.

С.А.

# «Сабатаж» на царкоўных падмурках

**У Лідзе за агароджай рынку на мейсцы аўтастанкі будуецца царква Сьвятога пакутніка Панцеляймона. Але пакуль гатовыя адныя падмуркі, і праца далей не пасоўваецца.**

Рэч у тым, што айцец Васіль, які вядзе будоўлю, загадам япіскапа Навагрудзкага й Лідзкага Канстанціна адхілены ад будаўніцтва. Вернікі лічаць, што нехта хоча абняславіць іхняга бацюшку і здэмаралізаваць іх самых.

Тры гады таму, калі ўлады дазволілі будаваць царкву, быў падрыхтаваны шыкоўны праект коштам каля 3 мільёнаў рублёў у тагачасных цэнах. Падмуркі планаваліся 2-мэтровай таўшчыні, а самыя муры зь імпартовай чырвонай марозатрывалай цэглы. Самае цікавае — у сутарэньнях мела быць трапезная плошчай 264 кв.м. з кухняй, мыйнымі машынамі й падсобнымі памяшканьнямі. Аднак аніводная будаўнічая арганізацыя не ўзялася ажыцьцявіць гэты незвычайны праект.

Будоўлю пачалі толькі летась, калі да справы далучыўся айцец Васіль. Паколькі будаўнічыя матэр'ялы імкліва даражэюць, ён вырашыў зрабіць усё найтанней. Гэткім чынам праектавая плошча храма зьменшылася на 200 кв.м., бо айцец Васіль скасаваў трапезную. Пасьля гэтага ён трапіў у няласку да япіскапа, а будаўніцтва зноў спынілася. Вернікі называюць усё гэта «сабатажам», гавораць, што ім не патрэбная царква са сталоўкаю, а толькі храм, каб маліцца. Яны напісалі да мітрапаліта Філарэта і чакаюць адказу.

Уладыка Канстанцін распаліў яшчэ адзін даўні канфлікт, які, здавалася, ужо збольшага заціх. У Лідзе ёсьць былы піярскі касьцёл. Цар некалі аддаў яго царкве, а савецкая ўлада разьмясьціла ў ім плянэтарый. Сёньня на касьцёл сталі прэтэндаваць і каталікі, і праваслаўныя. Але паколькі пачала будавацца царква, дык прэтэнзіі на храм выказвалі толькі каталікі (СВАБОДА пісала пра гэта сёлета). Дырэктар плянэтарыю сп.Хатылёў вырашыў тады абгрунтаваць беспадстаўнасьць іхніх жаданьняў, прывёўшы ў мясцовай газэце нейкія архіўныя зьвесткі. Паводле іх, касьцёл некалі згарэў дашчэнту, а на тым месцу быў пабудаваны на грошы праваслаўных зусім іншы храм. Такім чынам, ён меркаваў, што забіў абодвух зайцоў і ніхто болей ня будзе прэтэндаваць на плянэтарый. Але пасьля спыненьня будаўніцтва царквы Сьвятога Панцеляймона праваслаўныя вернікі зноў пачалі бунтаваць і патрабуюць неадкладна вярнуць ім плянэтарый.

**А.ГУК**

# Расейскія генэралы любяць Беларусь і ракеты

**«Пусть будут прокляты те, кто подписал этот договор», — так выказаўся саўмінаўскі чыноўнік Анатоль Іўчык, узьнімаючы шклянку з гарэлкаю. Пад гэты ды іншыя падобныя тосты пілі беларускія й расейскія генэралы на ракетнай базе каля Слуцку. «Братья по оружию» шкадавалі, што ім даводзіцца разьвітвацца.**

Адбывалася гэта мінулым тыднем на базе 306-га палка расейскіх ракетных войскаў стратэгічнага прызначэньня. Паўгода таму адсюль вывезьлі ў Расею ўсе дзевяць «Тополей» — ядравых стратэгічных ракетаў РС-12М (SS—25). Паводле дамовы, якую ў свой час падпісалі Гарбачоў і Буш (і якую летась ратыфікавала Рэспубліка Беларусь), мы абавязаныя таксама зьнішчыць пляцоўкі, на якіх стаялі пускавыя ўстаноўкі з ракетамі.

Якраз дзеля экспэрымэнтальнага зьнішчэньня першай такой пляцоўкі і зьехаліся ў 306-ты полк беларускія й расейскія генэралы ды палкоўнікі, а таксама прадстаўнікі нашага МЗС ды іншых ведамстваў. Ажыцьцяўляла выбух група расейскіх спэцыялістаў. Пад жалезабэтонны падмурак (ягоны памер — 32:8,5 мэтраў, таўшчыня — 0,5 м) заклалі тратыл і двума выбухамі ўздыбілі бэтон. Расейскі палкоўнік, які гадоў дваццаць таму рабіў такія самыя выбухі пад Масквою, цьвердзіць, што і па сёньня там тырчаць уздыбленыя пліты, ніхто і ня думаў прыбіраць тэрыторыю. Ён мяркуе, што ў нас будзе тое самае.

Добра выпіўшы гарэлкі пасьля выбуху, вайсковыя й цывільныя начальнікі пачалі абмяркоўваць «экспэрымэнт». На думку вайскоўцаў, не было сэнсу ўпісваць у дамову пункт пра зьнішчэньне пляцовак, бо ракеты гэтага тыпу (яны разьмяшчаюцца на колавых цягачох) магчыма запускаць з кожнага месца, дзе спыніцца машына. Дык навошта, маўляў, узрываць, трэба накіраваць амэрыканцам прапановы, каб зьмяніць гэты пункт дамовы, а пляцоўкі можна было б выкарыстаць як падмуркі пад будынкі.

Падобныя развагі выглядаюць на дылетанцкія, бо ня трэба быць прафэсійным дыпляматам, каб зразумець, што нават зьмяніць адзінае слова ці коску ў дамовах такога кшталту — доўгі й бадай што беспэрспэктыўны працэс. Амэрыканцы ўзрываюць свае 450 ракетных шахтаў, строга кіруючыся літарай дамовы. Таму відавочна, што беларускім МЗС і вайсковаму ведамству варта скіраваць імпэт у іншае рэчышча, а менавіта — дамаўляцца з тымі ж амэрыканцамі пра кампэнсацыі.

Рэч у тым, што расейскія спэцыялісты не задарма ўзрываюць ракетныя пляцоўкі на нашай тэрыторыі. Нам дакладна высьветліць не ўдалося, аднак ёсьць зьвесткі, што гэтыя выдаткі Маскве аплочвае Захад. Калі так, то ня менш пасьпяхова тое самае могуць рабіць нашыя спэцыялісты. Акрамя таго, варта весьці размову пра рэкультывацыю тэрыторыі ракетных базаў. Інакш у нашых лясох пад Слуцкам, Лідай і Мазыром на доўгія гады застануцца «рэліквіі» ядравага раззбраеньня. Такіх пляцовак на тэрыторыі Беларусі — 81. А дзевяць пляцовак пад Слуцкам павінны быць узарваныя ў бліжэйшыя дватры месяцы. На астатніх 72-х яшчэ стаяць расейскія ядравыя ракеты, якія, паводле папярэдняе дамовы паміж Беларусяй і Расеяй, павінны быць выведзены з нашай краіны да 1996 г.

...Выпіваючы за «экспэрымэнт», начальства захацела паслухаць, «што скажа прэса». Гаварыць тост падняўся карэспандэнт «Белінфарму» нехта Трацэўскі, які адзначыў, што «нас здесь принимают — лучше нельзя». А пасьля выдаў: «Я хочу сказать то, что не сказал генерал Никулин — до скорой встречи!» Генэралы ледзь не закрычалі «ура».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**
**Сяргей СТУЖКА**



**На здымку: былая ракетная пляцоўка пад Слуцкам — першая «рэліквія» ядравага раззбраеньня.**

# Усходнікі й заходнікі

Прачытаў днямі, што расейскі клясык назваў гісторыю Расеі да Пятра I бясконцаю паніхідаю, а пасьля яго — суцэльнаю крымінальнаю справаю. Клясыку яшчэ пашанцавала, што не пажыў пры савецкай уладзе. Іншымі вачыма глядзіш сёньня на хрэстаматыйныя прыклады са школьнае праграмы. За што ганілі таго Пятра I? За тое, што накідаў расейцам эўрапейскасьць азіяцкімі мэтадамі. Што кінуўся ратаваць Расею ад азіятчыны. У Эўропу вакно зрабіў. Праўда, пазьней маскоўскі паэта дасьціпна напісаў, што вакно гэтае адразу закратавалі.

А за што ў савецкіх падручніках ганілі Паўла I? Збольшага за тое, што арыентаваўся на Захад, што пераймаў парадкі прускай арміі. Але ж на той час гэта было найлепшае ў Эўропе войска.

XIX ст. адзначылася ў Расеі суперніцтвам у палітыцы заходнікаў і ўсходнікаў, альбо эўрапейцаў з славянафіламі, іншымі словамі — вялікадзяржаўнікамі, сёньняшнімі нэакамуністамі, баркашоўцамі з жырыноўцамі й г.д. Сёньня ў расейскай Думе адбываецца працяг колішняга змаганьня. Халера б зь імі, аднак усё гэта праектуецца на Беларусь, як на фактычна сатэлітную дзяржаўку Расеі. Купка эўрапейцаў упарта змагаецца ў Вярхоўным Савеце з праўсходніцкаю большасьцяй. І змаганьне гэтае ня можа мець посьпеху. Бо працэнтавы падзел у парляманце як у люстэрку адбівае падзел у грамадзтве.

Нашыя людзі не эўрапейцы. Яны альбо не ўсьведамляюць гэтага, або агрэсіўна не жадаюць заходняга шляху. Яны не эўрапейцы таму, што былі выгнаныя за рамкі Эўропы, адрэзаныя ад яе шэрагамі калючага дроту. А з Расеяй мы, наадварот, як той казаў, злучаныя тысячамі сувязяў. Хто там вучыўся, хто служыў, хто у складзе студэнцкага атраду будаваў кароўнік на Пскоўшчыне, а нехта папросту мае ў Тамбове палюбоўніцу. Адзін зь ініцыятыўнікаў Кебіча паабяцаў у Ваўкавыску, што Кебіч абавязкова завядзе нас у сусьветную супольнасьць, шлях у якую, аказваецца, ляжыць праз Расею. Нам усё яшчэ прапануюць езьдзіць у Парыж праз Маскву, як раней. Таварышы, навошта лезьці ў дом праз вакно, калі ёсьць дзьверы? Аказваецца, дзеля інтэрнацыяналізму, салідарнасьці й дружбы паміж двума братнімі народамі.

Сёньняшняя Расея мне ўяўляецца вялізнаю драпежнаю рыбінаю, выкінутаю на пясок. Ротам на Захад. Мы — плотка, якая ляжыць паміж вадой і рыбінай. Ляжыць і разважае: куды ёй лепей падацца? Непрыемная сытуацыя для тых, хто яе ўсьведамляе.

За два дні перад выбарамі быў у Горадні Станіслаў Багдапкевіч. Цікавую думку ён выказаў: досыць гаварыць, што хоць начальства ў нас і кепскае, затое народ добры. Такі ж самы і народ, калі гэтае начальства падтрымлівае, кажа сп.Багданкевіч. Сядзяць усе ды нечага вычэкваюць: што нехта мінімальны заробак падвысіць, цэны панізіць, банкаўскія ашчаджэньні праіндэксуе. Народ пасыўна чакае нейкае чыноўніцкае ласкі замест таго, каб запатрабаваць ад ураду стварыць умовы для заробку грошай і не перашкаджаць. Больш ад яго нічога не патрэбна.

Спадзяюцца таксама нашыя людзі, што ў некага нешта адбяруць ды нанова перадзеляць. А адбярэ, вядома ж, Лукашэнка, якому выбаршчыкі амаль далі карт-блянш. Згадваюцца словы аднаго эўрапейскага палітыка: перад тым, як дзяліць, трэба спачатку стварыць. Сп.Багданкевіч таксама сказаў: калі мы хочам стварыць сваю дзяржаву, дык патрэбна нечым і ахвяраваць. Заплаціць за энэргію ня можам, але ўсё роўна не эканомім яе. Калі арабы падчас вайны зь Ізраілем узьнялі ўтрая кошт нафты, французы сьведама абмежавалі ейнае спажываньне. У выходныя дні ў Парыжы амаль увесь транспарт спыняўся.

У нас жа ўся праблема ў тым, што народ ня мае ніякай мэты, не зьбіраецца нічога будаваць, ніякую незалежную дзяржаву. Вось чаму абодва заходнікі на прэзыдэнцкіх выбарах ня мелі посьпеху у гэтых выбаршчыкаў. Ані Шушкевіч, ані Пазьняк. А з чатырох усходнікаў першым стаў менавіта Лукашэнка. Сытуацыя нагадвае нядаўнія паўднёваафрыканскія выбары. Чарнаскурае, на жаль, жабрацкае, люмпэнізаванае насельніцтва прагаласавала за Нэльсана Мандэлу, які 27 гадоў праседзеў у турме, у спадзяваньні, што ён навядзе ў краіне справядлівы парадак.

Шкада, але начальства нам пакуль няма з каго выбіраць. Эўрапейцаў-заходнікаў — адзінкі. Ды адкуль ім узяцца? Гэта ж не Скарынава пара, калі езьдзілі вучыцца ў Кракаў, Прагу, Падую ды Парыскую Сарбону. Вучылася нашае начальства ў Маскве або ў такіх самых, толькі правінцыйных, горшых інстытутах у Менску, Мазыры ды Гомлі. А партшколы наагул паўсюдна былі аднолькавыя. Вось і маем, што маем.

Зрэшты, усе гэтыя праблемы вынікаюць з таго, што Беларусь ня мела міжваенных дваццаці гадоў незалежнага існаваньня. У суседняй Летуве, прыкладам, апроч жменькі буракявічусаў, уласных усходнікаў зусім няма. Галоўнае, што мы ня маем сярэдняе клясы, якой выгадней жыць у незалежнай дзяржаве, а не ў паўрасейскай губэрніі. Бо адных толькі намаганьняў актывістаў ТБМ у выхаваньні незалежніцтва відавочна будзе замала. У падобных да Беларусі краінах такія справы вырашаюць грошы, інтэрас.

Беларусы толькі-толькі ступілі ў пустэльню, па якой ім наперадзе блукаць сорак гадоў, каб пазбыцца дабрахвотнага рабства. Калі б на прэзыдэнцкі пасад сёньня выпадкова трапіў заходнік, гэтыя гады ён бы здолеў скараціць. А так пакутны працэс можа толькі зацягнуцца.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# НАША НІВА пра вынікі выбараў

**Падборка аналітычных тэкстаў новага нумару НН, які выйдзе на гэтым тыдні, прымеркаваная да вынікаў першага туру выбараў прэзыдэнта Беларусі.**

«Выбары, — гаворыцца ў рэдакцыйным артыкуле, — падводзяць рысу пад ілюзорным спадзевам на тое, што нас «усё гэта» абміне. Гутарка ідзе пра тую ломку пасьля наркатычнага забыцьця ў мінулай ідэялёгіі, якую так ці інакш, хто толькі з дэпрэсіяй, а хто і з крывёю, перажываюць усе посткамуністычныя краіны. І цяпер самы час гаварыць не пра кандыдатаў, не пра будучыню й Бацькаўшчыну, а пра тое, ад чаго залежаць камплікацыі, пра беларускі народ, які нарэшце выявіў сябе. Дагэтуль мы мелі справу хутчэй з уласнымі ідэялізаванымі ўяўленьнямі пра народ, імкнучыся не заўважаць, ня ўлічваць у ім стыхію натоўпу... Што стрымвае ў народзе гэтую стыхію, гэты прыродны мазахістычны парыў матылька, які заўсёды ляціць у вагонь? Цывілізаванае грамадзтва, якое мінімізуе ў народзе натоўп. Гэта інтэлігенцыя (у самым шырокім сэнсе слова), якая сьцьвярджае культуру й мараль; гэта добра адладжаныя інстытуты ўлады; гэта дэмакратычныя традыцыі — чым даўнейшыя, тым больш эфэктыўныя. Там, дзе ўсё гэта ёсьць, прэзыдэнтам краіны ня можа стаць крыкун. Там, дзе гэтага няма, натоўп абірае ў прэзыдэнты крыкуна. Тады запаноўвае прырода, базавы інстынкт, які ня ведае маралі. Тады «интеллигенция — говно», а культура... яе прадукт. Тады ўлада не інстытуюецца, а функцыянуе як строга вэртыкальная ерархія ў ваўчынай зграі. Традыцыя проста не ўзьнікае, бо гістарычная памяць — гэта якраз тое, чым адрозьніваецца чалавек ад жывёлы».

«Сапраўдны хам, прыродны хам, натуральны хам, — працягвае гэтую тэму польскі драматург Славамір Мрожак у развагах «Пакліканьне хама», — з сацыяльным паходжаньнем ня мае нічога супольнага і спрадвеку зьяўляецца ва ўсіх сфэрах. Яго дэфініцыя — нахабства, абсалютная ўпэўненасьць, што яму належыць усё, але яго не абавязвае нічога, усё належыць яму нізавошта. Ён не паважае чужога існаваньня, таму што лічыць, што сьвет створаны толькі на тое, каб мог існаваць ён і ніякай таямніцы быцьця ва ўсім гэтым няма. Хам ведае ўсё, ён ведае ўсё лепей за іншых і ня мусіць нічога даведвацца...»

Паводле тэмы гэты нумар «НН» — даўно абяцаны гомельскі. Друкуюцца эсэ М.Сердзюкова і З.Бартосіка, апавяданьне Ул.Сьцяпана, верш А.Мінкіна ды шмат іншых тэкстаў, у якіх так ці інакш раскрываецца твар і дух буйнога беларускага горада. З «замежных» публікацыяў — эсэ Ул.Арлова пра яго падарожжа ў Англію, урывак з нашумелага «эратычнага» літоўскага рамана «Вядзьмарка і дождж», пераклады габрэйскага гумару, справаздача са зьезду пісьменьнікаў Босьні і Герцагавіны. Шмат рэцэнзіяў, вершаў, нататак ды іншых матэрыялаў.

# Гэтая публіка, якой патурала міліцыя, учыніла шабаш на пляцы Перамогі



Яны пачуваюць сябе гаспадарамі на нашай зямлі.

Будзем цярпець зьдзек?

Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

## Страшная слава

Вайна нічому ня вучыць. Нічому ня вучыць і прапаганда перамогі. Нічому ня вучаць пышныя ўсенародныя сьвяты вызваленьня. Наадварот. Усё гэта прымушае — забываць. У нас усе ведаюць пра Курскую бітву, пра Аляксандра Матросава, пра подзьвіг народу, але ніхто ня скажа, з чаго пачалася тая вайна і што трэба зрабіць, каб не пачалася новая. У нас няма вопыту тае сьмерці, які дапамог бы нам сёньня жыць.

Ведаюць: Гітлер — нелюдзь, Сталін зашмат на сябе браў, італьянскі фашызм, германскі фашызм, палітычная сытуацыя... Але гэта нічога не тлумачыць. Вайна, вызваленьне, перамога — гэта калі забіваюць -в двух бакоў. Калі забіваюць з аднаго боку — гэта завецца генацыдам. З генацыдам усё ясна, яго нельга зразумець, а можна толькі чакаць. А вось з вайною... Усё, што нам кажуць пра яе, ніяк не тлумачыць той розьніцы, якая пакуль яшчэ існуе паміж большасьцю з нас і чалавекам, здольным забіць іншага чалавека. Уся прапаганда, бравурныя маршы й пышныя сьвяты вайны скіраваныя на тое, каб гэтую розьніцу сьцерці — маўляў, будзем вартыя славы бацькоў. Але ў чым гэтая розьніца? Няўжо мы зразумеем гэта толькі тады, калі пачнем страляць адзін у аднаго?

Сьмерць ня ведае славы. Гібель сына, мужа і бацькі можа быць подзьвігам толькі для нейкіх чужых людзей. Калі мой дзед загінуў у Смаленскай вобласьці ў царкве, прыстасаванай пад шпіталь, дзе ён служыў санітарам, а ў царкву трапіла бомба, — дык што мне, крычаць: слава герою? Не, я ведаю, што загінуў ён недарэчна, а на руках у маёй бабы засталося васьмёра дзяцей...

Я ня веру ў подзьвігі, створаныя прапагандай, бо бачу ў гэтых гісторыях перакручаную хлусьню пра славу. Рэальная праўда вайны ніколі ня можа быць слаўнай. Таму ўсе гэтыя подзьвігі існуюць да часу. Пакуль існуюць дзяржава, сыстэма і радзіма, за якія той чалавек паклаў галаву. Сёньня, калі ў нас натужна сьвяткуюць Дзень вызваленьня, яны ўжо не існуюць. Няма СССР, няма сацыялістычных каштоўнасьцяў, няма савецкай радзімы, а журналісты спрачаюцца, хто ўсё ж па выніках той вайны — перамог? Ёсьць поўнае забыцьцё экзыстэнцыйных сымптомаў тае вайны ў псыхіцы людзей, у грамадзкіх плынях, у палітыцы палітыкаў... Натуральнае імкненьне не забыць ахвяраў даўно заглушана імкненьнем уславіць герояў, хоць гэта два імкненьні ў розныя бакі.

Сёньняшнія спробы рэфармаваць прапагандавы зьмест і рытуал Сьвята Вайны выглядаюць усё больш абсурдна. Ужо няма чаго сьвяткаваць, але няма і рэальнага досьведу той вайны, каб задумацца. Таму, адзначаючы 50-годзьдзе забойстваў у імя няісных ужо дзяржавы, сыстэмы і радзімы, грамадзтва робіць гэта зь лёгкім прыдыханьнем, зусім ня так, як раней. Нібы мае справу не з гісторыяй, а з будучыняй.

# Габрэйскія партызаны таксама хацелі есьці

На вайскова-гістарычнай канфэрэнцыі ў Горадні адзін гарадзенскі адстаўнік абураўся, як гэта газэта СВАБОДА заявіла, што чытачы пажадалі Васілю Быкаву напісаць усю праўду пра мінулую вайну. А менавіта пра тое, як беларускія сяляне ў гэткіх умовах сеялі, жалі, кармілі і сябе, і партызанаў усіх адценьняў, і немцаў. Адстаўніка абурыла само пытаньне, хаця ён тым жа часам нібыта выступаў за высьвятленьне ўсіх невядомых старонак вайны.

Справакаваны гэтым маёрам ці палкоўнікам на пэнсіі, я задумваюся над вершаваным радком: «Партызаны, партызаны, беларускія сыны». Кім яны былі, гэтыя самыя партызаны? Здаецца, пра іх напісаныя тоны савецкіх кніжак. Я ня буду чапаць усю краіну. Вазьму дзеля прыкладу адну Наваградчыну, як міні-мадэль Беларусі. Немцы, як і бальшавікі, напачатку абрэзалі Беларусь з усіх бакоў, але Наваградчыну пакінулі — яна ў іх не выклікала сумневу. Дык вось, першыя партызанскія групкі пачалі там фармавацца з акружэнцаў, і кiравалі імі не тутэйшыя людзі: Угрюмов, Марков, Мечурин, Золотов. Потым з Масквы пачалі закідаць сюды спэцгрупы для ўтварэньня арганізаваных лясных аддзелаў.

На Наваградчыне таксама дзеіла Армія Краёва. Палякі мелі двух ворагаў — Сталіна й Гітлера, якія падзялілі Польшчу. Напачатку яны ўсё ж супрацоўнічалі з савецкімі партызанамі. А потым апошнія атрымалі загад з Масквы абяззбройваць і нават зьнішчаць акаўцаў, і пачалася сапраўдная грамадзянская вайна ў нямецкім тыле, паколькі беларусы ваявалі і ў АК, і ў савецкіх партызанах. Толькі камандавалі імі ў адным выпадку пераважна расейцы, а ў другім палякі. На Наваградчыне стаяў батальён Беларускай краёвай абароны, якім камандаваў Барыс Рагуля. Савецкія і польскія партызаны аднолькава вынішчалі найбольш сьведамых беларусаў, прычым самых безабаронных: сялянаў, настаўнікаў, сьвятароў. Таму БКА, баронячы беларускае насельніцтва, змагалася і з тымі, і з другімі. Грамадзянская вайна набірала моцы.

І ўсе мелі як быццам сваю рацыю. АК — хацела аднавіць Польшчу да 39-га году, савецкія — паставіць на месца межавыя слупы сталінскага СССР. Былі на Беларусі і ўласаўцы, якія, мабыць, жадалі дарэвалюцыйных межаў царскай расейскай імпэрыі. Дарэчы, і ў іхных шэрагах ваявалі беларусы. Карацей, усе мелі рацыю. Паслухаеш тых псэўдавучоных на вайскова-гістарычнай канфэрэнцыі, дык паводле іх ня мелі рацыі адныя беларусы. Таму што яны — нацыяналісты, яны хацелі сапраўды беларускай, наколькі магчыма незалежнай дзяржавы. Па сёньня тыя, хто змагаўся за Беларусь, разглядаюцца як ворагі.

У суседняй Летуве ўсё ўжо інакш. Ваяваў за Летуву — малойца. Шкодзіў мірнаму насельніцтву — тады разьбярэмся. А ў нас наадварот. Калі ты савецкім партызанам быў, дык зь цябе хоць абразы царкоўныя маляваць можна. Далёка яшчэ нам да аб'ектыўнасьці.

Невядомыя старонкі партызанкі, аднак, спакваля становяцца вядомымі. Аказваецца, на Наваградчыне існаваў і габрэйскі партызанскі аддзел пад кіраўніцтвам Тувія Бельскага. Летась у Нью-Ёрку выйшла па-ангельску кніжка «Выклік. Партызаны Бельскага. Гісторыя самага вялікага ўзброенага выратаваньня габрэяў габрэямі ў часе Другой сусьветнай вайны». Наваградзкая газэта «Новае жыцьцё» зьмясьціла пра гэтую кнігу публікацыю.

Для партызанаў заўсёды было вялікай праблемай харчаваньне. Некаторыя вельмі балюча перажывалі патрэбу адбіраць харчы. Ад беларускіх сялянаў прасьцей было ўзяць нетутэйшым. Свае нярэдка «адчувалі, што партызан займаў месца паміж героем і рабаўніком. Мы павінны былі жыць і былі вымушаны забіраць у сялян іхны несамавіты набытак. Мясцовыя жыхары цярпелі і ад немцаў, і ад нас», — гэта цытата з кніжкі. Далей Бельскі ўспамінае, што імкнуўся не дапусьціць да рабаўніцтва, але заўважае, што мяжа паміж рабаваньнем і «папросту ўзяць» была вельмі неакрэсьленая. Сяляне безупынна скардзіліся на «жыдоў».

Дарэчы, Бельскі выразна падзяляе партызанаў на расейскіх, беларускіх і габрэйскіх. Аднойчы ён атрымаў зьвесткі, што камандзер расейскага аддзелу «Октябрь» Панчанкаў вырашыў зьнішчыць аддзел Бельскага, на якога ўвесь час скардзіліся сяляне. Цікава, што сам Панчанкаў вылучаў тады сярод партызанаў толькі расейцаў, палякаў і габрэяў. Бельскі вырашыў сам сустрэцца з Панчанкавым. Урэшце рэшт яны падзялілі тэрыторыю для збору прадуктаў: Панчанкаў зьбіраў у навакольлі Дзятлава, а Бельскі каля Наваградка й Ліды.

Самае цікавае, што ў адказ на публікацыю зь Ліды прыйшоў абураны ліст ад таго самага Панчанкава. Ён піша: «Я выхоўваўся ў савецкай школе, і хаця па нацыянальнасьці расеец, нам нават слова «жыд» слухаць, а ня тое што вымаўляць, было брыдка. І мы яго ніколі не вымаўлялі, ніколі не пагарджалі партызанамі-габрэямі». Але ён прызнае, што «стаўленьне тутэйшых жыхароў да габрэяў-партызанаў было не асабліва добрае».

Далей Панчанкаў успамінае, як у 1942 годзе да яго зьвярнуўся Бельскі з просьбай растлумачыць сялянам, што габрэям таксама трэба даваць харчы. Склікалі сход. Бельскі доўга даказваў, што няма ніякай розьніцы паміж расейскімі й габрэйскімі партызанамі, а таму вяскоўцы ўсіх павінны карміць. Панчанкаў піша, што тады «пачаліся выкрыкі, што габрэі, як толькі наступае ноч, прыходзяць і патрабуюць курэй, яек, масла ды іншых прадуктаў, і просім абараніць ад іх». Панчанкаву давялося тлумачыць, што трэба адрозьніваць партызанаў, якія ваююць, ад звычайных рабаўнікоў, якіх трэба гнаць.

Карацей, нібыта пасябравалі Бельскі з Панчанкавым. Але без інцыдэнтаў усё адно не абыходзілася. Прыкладам, увесну 1944 г., пакуль аддзел Панчанкава быў на баявой апэрацыі, брат Бельскага ўчыніў харчовыя паборы ў вёсках, дзе меліся зьбіраць прадукты расейцы. Панчанкаў быў абураны і нібыта загадаў усё раздаць назад, хоць Бельскі прапаноўваў яму за гэта золата, сказаўшы: «яно табе спатрэбіцца».

Як бачым, незайздросная роля беларускага селяніна ў гады апошняй вайны толькі для адстаўнога палкоўніка можа падацца надуманай. Цяжка сабе ўявіць, як, накарміўшы партызанаў Бельскага і Панчанкава, гэты ж селянін павінен быў яшчэ задаволіць жаўнераў Арміі Краёвай, здаць харчовы падатак на нямецкую армію, нарэшце, накарміць сваю ўласную сям'ю, а яшчэ прыберагчы бульбы ды збожжа на веснавую сяўбу. Адно ясна: каб немцы абдзіралі беларускіх сялянаў, як бальшавікі ў калгасах, дык сытым пачуваўся толькі б вэрмахт, а партызаны ўсіх колераў вымерлі б з голаду і ў Нью-Ёрку ніколі б ня выйшла кніжка з успамінамі Бельскага.

Адам ЗАНЕЎСКІ

# Расея пераможа, калі прайграе Крым

**Вядомая палітычная дзяячка, дысыдэнтка і стваральніца Дэмакратычнага саюзу Валерыя Навадворская — адна зь нешматлікіх расейскіх палітыкаў, якія пасьлядоўна стаяць на антыімпэрскіх дэмакратычных пазыцыях. Публікуем фрагмэнты ейнага артыкула ў папулярным маскоўскім тыднёвіку «Століца» (№24, 1994 г.).**

Гарачыя галовы з вострава Крым, якія, відаць, ніколі не чыталі Аксёнава (а то б яны не сьпяшаліся ў Расею!), хочуць жыць як усе людзі: мець сваю гарачую кропку. Лепш бы, вядома, пайсьці на пляж. Але дурань ня можа спакойна ляжаць на ўкраінскім пяску, яму трэба, каб пясок быў расейскім, а яшчэ лепш — савецкім. А дасьведчаныя распальнікі з Масквы, якія ужо два гады разьдзімаюць гэтае вогнішча, ажывіліся. Вельмі хацелася ўзяць Перакоп яшчэ раз.

Я нічога не павінная Краўчуку. Але Ляўко Лук'яненка правёў год у камэры сьмяротнікаў, а Вячаслава Чарнавіла вадзілі ў сібірскіх лягерох босым па сьнезе, і Сьцяпан Хмара ня так даўно пакінуў Лук'янаўскую турму, і браты Горыні адтуль жа, з нашага ГУЛАГу. Я дарую ім увесь Чарнаморскі флёт, ад мінаносцаў і эсьмінцаў да апошняй пасудзіны. Няхай катаюцца.

Дурням і скнарам нельга даваць грамадзянскіх правоў. Калі расеец думае не пра тое, як бы ўзьняць з руінаў тэрыторыі, якія Расея ўжо мае, а пра тое, як бы адхапіць тыя землі, якія належалі ёй у XVII ст., альбо як бы абараніць свае інтарэсы ў Таджыкістане й Грузіі; калі ён думае не пра тое, якім чынам купіць сабе «таёту», а як бы нікому не саступіць Чарнаморскі флёт, калі, седзячы над разьбітым карытам, ён цьвердзіць, што гэтае разьбітае карыта і ёсьць вялікая дзяржава, дык ён нядзеяздольны і на выбары яму хадзіць супрацьпаказана.

Меў праўду Воланд, калі сьцьвярджаў, што кватэрнае пытаньне вельмі сапсавала масквічоў. Толькі мы ды яшчэ траглядыты ў канцы XX ст. спрачаюцца, хто дзе павінен жыць паводле прапіскі тысячагадовай даўніны. У Эўропе пасьля сумнага досьведу другой сусьветнай вайны знайшліся разумныя людзі, якія сказалі: «Раз, два, тры — усе фігуры на месцы замры!» І адразу спыніліся раскопкі на тэму: «Каму павінны належаць Рур, Рэйнскі абшар, Эльзас і Лятарынгія».

Адзіны спосаб утрымаць нашых «енэралаў» ад вайны — гэта зусім не хадзіць у войска. Ані нагою. Уцякаючы ад пабору, расіяне выконваюць свой патрыятычны абавязак.

Што ж да гістарычных правоў на Крым дзеля тамтэйшых старажытных славянскіх каранёў, то баюся, што ў разе правядзеньня конкурсу паўвыспу давядзецца аддаць Грэцыі. Пантыкапей, Ольвія, Херсанэс — куды ўжо да яе ўсім астатнім!

Дык вось, пачніся сёньня другая Крымская вайна, я буду ўдзень і ўначы зычыць паразы сваёй імпэрыялістычнай Бацькаўшчыне. Калі мы прайграем другую вайну так, як прайгралі першую, можа быць, рэформы адновяцца...

**Валерыя НАВАДВОРСКАЯ**

# І нас чакаюць такія пошліны?

**Зь 1 ліпеня Расея ўвяла новыя мытныя пошліны на імпарт**

Пачаць дзейнічаць яны павінны былі яшчэ ў траўні. Але настойлівасьць уладаў буйнейшых гарадоў (найперш — Масквы, Санкт-Пецярбурга, Екацярынбурга) перашкодзілі гэта зрабіць тады. Рэч у тым, што пошлінамі абкладаюцца й прадукты харчаваньня. А расейскія мэгаполісы пры поўнай нерэнтабэльнасьці сельскай гаспадаркі Расейскай Фэдэрацыі, жывуць пераважна за кошт імпартаваных прадуктаў. Новымі пошлінамі, акрамя таго, абкладаюцца аўтамабілі і пабытовая электроніка. Велічыня пошлінаў вагаецца ад 3 да 60%.

Падобна, што ўрад Кебіча пасьпее яшчэ прышпіліць Беларусь да новых расейскіх пошлінаў. Абсурднасьць сытуацыі ў тым, што пад пошліны трапляе прадукцыя, якая на Беларусі не выпрацоўваецца, альбо выпрацоўваецца ў зусім недастатковай колькасьці (да прыкладу — легкавыя аўтамабілі і алей). Такім чынам, для беларускага спажыўца значна даражэй будуць каштаваць ня толькі нямецкія «Мэрсэдэсы», але й украінскі цукар ды алей.

**Ян ГРЭЧЫЦ**

**Л.Бальцаровіч**

# Развод з сацыялізмам

**Польскі часопіс *Wprost* апублікаваў артыкул слыннага «бацькі» польскіх рынкавых рэформаў Лешка Бальцаровіча з цыклю «Развод з сацыялізмам». Аўтар параўноўвае шляхі разьвіцьця розных краінаў нашага рэгіёну.**

Краіны Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы атрымалі ў спадчыну камуністычны баляст рознай ступені цяжкасьці і пайшлі рознымі шляхамі. Некаторыя зь іх — Польшча, Баўгарыя, Чэха-Славаччына, Эстонія, Латвія, Славенія, Албанія — выбралі праграмы радыкальных зьменаў у гаспадарцы, іншыя — асабліва Ўкраіна, Беларусь і Румынія — дагэтуль не адважыліся на гэтакую стратэгію.

Досьвед паказвае, што краіны першай групы, калі яны толькі здолелі ўтрымацца на шляху радыкальных рэформаў, праз чатыры гады апынуліся ў лепшай сытуацыі: у іх меншая інфляцыя, значна болей пазытыўных зьменаў у эканамічнай сыстэме, мацнейшая тэндэнцыя ейнага росту.

Але радыкальныя рэфарматары выглядаюць — на першы пагляд — значна горш, калі ўзяць пад увагу праблему беспрацоўя. Бясспрэчна, беспрацоўе ў Польшчы, Славаччыне ці Славеніі вышэйшае, чым на Ўкраіне ці ў Беларусі. Аднак афіцыйная статыстыка рэгіструе толькі відавочнае беспрацоўе, абмінаючы прыхаванае беспрацоўе на прадпрыемствах. Вядома, што існаваньне штату зусім не азначае, што ён выконвае якую-небудзь адчувальную працу.

Гэта азначае, што прыхаванае беспрацоўе пагрозьліва расьце і мусіць рана ці познаператварыцца ў беспрацоўе відавочнае. Рост прыхаванага беспрацоўя — гэта рост колькасьці асобаў, чый заробак зьяўляецца, па сутнасьці, грашовую дапамогаю, якую выплочвае рэшта грамадзтва. Такія людзі, прыходзячы на месца працы, каб атрымаць заробак-субсыдыю, звычайна не шукаюць новых магчымасьцяў працаўладкаваньня. Таму ў краінах, дзе неабмежаванымі датацыямі для прадпрыемстваў-банкрутаў «замарозілі» стан фармальнай занятасьці, так марудна разьвіваюцца новыя галіны гаспадаркі.

Аднак трэба падкрэсьліць, што ступені беспрацоўя ў радыкальна рэфармаваных краінах значна розьніцца. Гэта вынікае часткова з таго, у якой ступені гаспадарка падпала пад дэфармацыі сацыялізму. Напрыклад, Чэхія і Славаччына да 1992 года былі адною дзяржаваю і мелі адну эканамічную палітыку. Але беспрацоўе ў Славаччыне падвышалася ў 1990—1992 г. значна хутчэй, чым у Чэхіі, і дасягнула ў чатыры разы вышэйшага ўзроўню. Гэта азначала ня тое, што чэхі разумнейшыя за славакаў, але толькі тое, што гаспадарка Славаччыны атрымала ў спадчыну значна болей цяжкой і вайсковай прамысловасьці, а рынкі збыту тых галінаў гаспадаркі ў значнай меры занепалі разам з сацыялізмам.

Сацыялізм апынуўся нязьдольным канкураваць з капіталізмам у якасьці й кошце прадукцыі; ён мог толькі павялічваць і ўтрымліваць малапрадукцыйную вытворчасьць.

Досьвед таксама паказвае, што радыкальныя рэформы ў гаспадарцы мелі вялікае значэньне для ўмацаваньня палітычнага суверэнітэту постсацыялістычных краінаў у дачыненьнях з былым СССР, а потым з Расеяй.

У другой палове 1990 г. наступіў хуткі пераход да сусьветных цэнаў і аплаты валютаю за расейскую нафту й газ, што азначала рост валютных выдаткаў. Аднак рэформы дазволілі Польшчы, Чэха-Славаччыне ды іншым краінам хутка павялічваць валютны экспарт. У 1990 г. ён узьняўся болей чым на 40%. Гэта дало магчымасьць фінансаваць імпарт нафты й газу, не баючыся, што давядзецца закручваць нафтавы кран з-за недахопу грошай або ўлезьці ў велізарныя даўгі да Расеі (менавіта такая сытуацыя паўстала на Беларусі і Ўкраіне).

Сацыялізм пакінуў ня толькі здэфармаваную эканоміку, але й ашуканыя спадзяваньні, што заробак прынясуць на сподачку незалежна ад працы, што дзяржава прафінансуе страты прадпрыемстваў, што даўгоў можна будзе не вяртаць.

Такое стаўленьне эканоміку не паправіць. Рэформы пачаць цяжка, лёгка крытыкаваць іх з пазыцыі «сябroў народу». Але радыкальныя эканамічныя рэформы — гэта велізарная інвэстыцыя ў будучыню. «Сябры народу» ствараюць уражаньне, што кожную праблему можна вырашыць толькі з дапамогай умяшаньня дзяржавы. Але гэткім чынам яны ашукваюць людзей і робяць кепскую паслугу грамадзтву.

***Wprost***




**Лешка Бальцаровіча разглядаюць як магчымага кандыдата ад «Unii Wolnosci» (адна з найбольш уплывовых у Польшчы партыяў) на прэзыдэнцкіх выбарах 1995 г.**

Малюнак з газэты *Trybuna*

# Вялікабрытанія: рэвалюцыя на рынку прэсы

**Два брытанскія газэтныя магнаты распачалі вайну цэнаў, якая можа страшэнна ўскалыхнуць тамтэйшы рынак. Бойка йдзе ня толькі за чытача, але і за панаваньне на газэтным рынку.**

Як лічаць біржавыя спэцыялісты, пачатак вайны цэнаў паміж канкурэнтамі — *Times* і *Daily Telegraph* — роўны камэрцыйнаму самагубству іхных уладальнікаў Рупэрта Мэрдака і Конрада Блэка. Сытуацыя на брытанскім прэсавым рынку можа стацца вылучна небясьпечнаю, калі да цэнавай вайны далучыцца бульварная прэса.

Як і дагэтуль, абодва магнаты пачуваюцца добра, а першаю ахвяраю іхнае сутычкі можа стаць найбяднейшая брытанская штодзённая газэта *The Independent*, якую найслабей купляюць. На гэтым тыдні *Daily Telegraph* зьнізіла цану з 48 да 30 пэнсаў. *Times*, якая ўжо ў лістападзе летась зьнізіла цану на 15 пэнсаў, адказала чарговым зьніжэньнем цаны да 20 пэнсаў. Цэны газэтаў упалі на працягу сямі дзён сумарна на 800 мільёнаў фунтаў. *The Independent*, якая ня змажа апусьціць цэны ніжэй за цяперашнія 50 пэнсаў, зьвярнулася з просьбай да Управы кантролю гандлёвых дачыненьняў. Уладальнікі газэты вінавацяць Мэрдака й Блэка ў спробе выпхнуць з рынку менш заможных канкурэнтаў, каб потым лягчэй зманапалізаваць тое, што на ім застанецца. Мэрдаку ўлічваюць у віну яшчэ і тое, што ён фінансуе *Times* з дапамогай грошай, якія бярэ зь іншых крыніцаў сваёй «імпэрыі». Тымчасам сьледзтва, якое вялося праз кантрольную ўстанову Лёндanскай біржы супраць уладальніка *Daily Telegraph* Конрада Блэка, ня ўгледзела аніякіх парушэньняў у факце, што за месяц перад зьніжэньнем цаны на газэту Блэк прадаў 12,5 мільёна фунтаў сваёй долі ў ёй.

Галоўны рэдактар *Daily Telegraph* Макс Хастынгс прызнаў, што гульня, распачатая Мэрдакам і Блэкам, вельмі рызыкоўная. Аднак страты пагражаюць толькі інвэстарам і ўладальнікам газэтаў, у той час як чытачы могуць толькі выйграць на зьніжэньні цэнаў. Але аналітыкі прэсавага рынку аспрэчваюць гэтую думку. Прадстаўнік газэты *Financial Times* Рэймаид Сноды зьвярнуў увагу, што гульні на рынку могуць зьнішчыць адданасьць чытачоў улюбёнай газэце. Для шматлікіх людзей штодзённая газэта — амаль што частка ўласнай асобы. Няспынныя зьмены цэнаў могуць прывесьці да таго, што чытач будзе выбіраць выданьне, якое сёньня таньнейшае. Гэта можа прывесьці да суцэльнай дэстабілізацыі прэсавага рынку, — папярэджвае Сноды.

**Падрыхтавала А.М.**

# Напад на журналіста

## Каму гэта выгадна?

**Сьледчы камітэт МУС узбудзіў крымінальную справу па факце нападу на фотакарэспандэнта газэты «Рэспубліка» Аляксандра Кушнера.**

Як ужо паведамлялася, раніцою 29 чэрвеня, калі А.Кушнер выйшаў з пад'езду свайго дома ў мікраваёне Кунцаўшчына, яго перанялі двое ў цывільным і запхнулі ў чорную «Волгу». «У чым справа?» — спрабаваў пратэставаць фотакарэспандэнт. «Ёсьць пытаньні. Ад'едзем — пагаворым», — адказалі яму.

Праехаўшы па Ракаўскай шашы кілямэтраў дзесяць, машына завярнула ў лясок. Карэспандэнта выцягнулі з машыны, запатрабавалі фотаапаратуру і засьвяцілі стужкі (яны, аднак, усе былі чыстыя). Пасьля запатрабавалі, каб Кушнер падрабязна распавёў, як ён апынуўся ў Доме ўраду адразу пасьля інцыдэнту Лукашэнкі зь міліцыяй, хто яму паведаміў пра гэта і г.д. Усё запісалі на дыктафон. Адзін увесь час трымаў за руку, а другі задаваў пытаньні. Калі гэты другі выцягваў дыктафон з кішэні, журналіст зьвярнуў увагу на падвязаную пад пахаю кабуру зь пісталетам.

Закончыўшы «інтэрвію», той, каторы задаваў пытаньні, спачатку ўрэзаў пад дых ("я нахіліўся"), а другім ударам у патыліцу «адключыў» Кушнера. Калі журналіст апрытомнеў, нікога ўжо ня было, уся фотаапаратура была на месцы.

Мінулай пятніцай А.Кушнер паехаў туды са сьледчымі, знайшлі тое месца. У інтарэсах сьледзтва ня будзем паведамляць ніякіх дэталяў.

Кушнер не сумняваецца, што ён можа апазнаць гэтых двух нават сярод сотні людзей ("Я глядзеў ім у вочы і стараўся запомніць, хаця, пабачыўшы пісталет, зусім ня ведаў чым скончыцца гэты допыт."). Калегі Кушнера жартуюць і раяць яму падзяжурыць колькі гадзінаў каля будынку КДБ — «напэўна ты пабачыш там гэтых двух тыпаў». Між тым, ня выключана, што гэты напад на фотакарэспандэнта мог быць зьдзейснены зусім іншымі сіламі з мэтаю ўчыніць яшчэ адзін скандал вакол А.Лукашэнкі.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

**На здымку: Аляксандар Кушнер**



# Загадкавыя выбухі могуць скончыцца надзвычайным становішчам

У ноч з чацьвера на пятніцу непадалёк ад рэдакцыі СВАБОДЫ (мэтраў 300) быў выбух

Аднак пра выбух мы даведаліся толькі раніцай, бо ўзрывалі ня нас, а Генадзя Данілава — ўрадавага сакратара па справах бясьпекі і абароны, які двойчы судзіўся з нашай газэтай і зь якім мы маем гонар паблізу разьмяшчацца.

Г.Данілаў паведаміў сьледзтву, што прыкладна ў 0.45 ён увайшоў у свой пад'езд, аднак ліфт быў заняты і Данілаў стаў падымацца па лесьвіцы на свой трэці паверх. Калі быў на пляцоўцы паміж 1-м і 2-м паверхамі, пачуў спачатку звон разьбітага шкла, а пасьля — выбух. Паводле папярэдніх зьвестак, была ўзарваная граната.

Раніцай карэспандэнты СВАБОДЫ агледзелі месца здарэньня. Выбухам былі павыбіваныя вокны на лесьвічных пляцоўках ад першага да трэцяга паверху. Астатняе — бачна на здымку. На сьцяне паміж 2-м і 3-м паверхамі ёсьць яшчэ надпіс: «Дурак ты».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

**На здымку: дзяржаўная група менскай пракуратуры фіксуе вынікі выбуху**



# Dainova прызначыла Ермаловічу стыпэндыю

Адмысловая вечарына адбылася першым ліпеньскім адвячоркам у Вялікай зале Дома літаратара. Праграма вечарыны, наладжанай часопісам ЗРОК, была насычаная: прэзэнтацыя зборніка вершаў для дзяцей Віктара Кудлачова «Нарисую город Гродно»; прэзэнтацыя кнігі Міколы Ермаловіча «Старажытная Беларусь»; ушанаваньне літаратараў-інвалідаў па зроку; прэзэнтацыя зборніка паэзіі Віктара Стрыжака «Рэха журбы».

Пра кнігі М.Ермаловіча гаварылі Яўген Лецка, доктар гістарычных навук Георгі Штыхаў, галоўны рэдактар часопіса «Маладосьць» Генрых Далідовіч. Сутнасьць прамоваў апошніх абагульняе фраза, якая вырвалася ў кагосьці з прысутных пасьля кароткага, але эмацыйнага гістарычнага экскурсу самога Міколы Ермаловіча: «Колькім людзям ён вочы адкрыў на гісторыю Бацькаўшчыны». Беларускае таварыства інвалідаў па зроку выступіла ініцыятарам зацьверджаньня адмысловага мэдаля «Заслужаны работнік таварыства». У ліку першых на сцэне Дому літаратара ўрачыста быў узнагароджаны знакаміты гісторык. Праўдзівай сэнсацыяй на вечарыне прагучала абвестка, што вядомая беларуская фірма Dainova прызначыла Міколу Ермаловічу пажыцьцёвую стыпэндыю памерам у 500 тысяч рублёў штомесяц (з улікам інфляцыі). Тут жа на сцэне яму ўручылі канвэрт з сумай за два месяцы: чэрвень—ліпень. Сьведамыя беларускія бізнэсмэны зрабілі тое, на што даўно павінна была адважыцца нашая дзяржава ў дачыненьні да працавітага вучонага, які, не зважаючы на сваю інваліднасьць па зроку, дзесяцігодзьдзямі (штодня!) езьдзіў электрычкаю з Маладэчна ў менскія бібліятэкі і адзін распрацаваў дзялянку, на якой шчыруюць цэлыя аддзелы акадэмічных інстытутаў.

**Януш**



# Гора засланіла розум?

**Мінулай пятніцай Вярхоўны суд Беларусі пацьвердзіў два сьмяротныя прысуды.**

Пры разглядзе справы 59-гадовага грамадзяніна, які забіў сваю 85-гадовую цешчу, прысутнічалі дзеці забойцы. У адзін голас яны настойвалі, каб бацька быў расстраляны. Калегія Вярхоўнага суда пакінула сьмяротны прысуд у сіле.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

# Лёгкаатлеты выбралі гімнам «Пагоню»

**Мінулым тыднем ў Кракаве праходзіў лёгкаатлетычны турнір паміж камандамі Вугоршчыны, Польшчы, Украіны й Беларусі.**

Здарылася неспадзяванка: арганізатары спаборніцтва ў апошні момант узгадалі, што ня маюць беларускага гімну. Зьвязаліся са спартоваю рэдакцыяй Польскага радыё ды папрасілі дапамогі. Тыя зьвярнуліся да тамтэйшых беларусаў, але БССРаўскага гімну ў іх не было, бо ніколі не скарыстоўвалі яго. Затое была «Пагоня» на словы Максіма Багдановіча і «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макара Краўцова. Беларусы запрапанавалі «Пагоню», папярэдзіўшы, што яна разглядаецца як мажлівы варыянт новага беларускага гімну.

У выніку на турніры ў Кракаве гучала «Пагоня». Усім спадабалася, а найбольш — нашым атлетам, якім, напэўна, ужо ўстыла слухаць пра «беларусаў з братняю Русьсю».

**В.ЦАПАЯ**

**Чаму газэту СВАБОДА цяжка знайсьці ў менскіх кіёсках?**

**Каго хвалюе гэтае пытаньне — тэлефануйце кіраўніцы менскага «Белсаюздруку» сп-ні Шаблоўскай, тэл. 26-16-37.**
**Пра гэта ведае таксама ейны «куратар» — намесьнік міністра культуры і друку сп.Карэнда, тэл. 23-26-84.**

## Праграма 8-га каналу

**Аўторак, 5 ліпеня**

19.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.25 Студыя «Інтэкс» прэзэнтуе: «Навіны».
19.35 «Лябірынт правасудзьдзя».
20.25 БЕЛНЕКС паказвае фільм Дыснэя «Аладын». 2-я частка.
20.55 «Марэна Кляра».
21.45 «Ля афішы».
22.00 БЕЛНЕКС паказвае фантастычны баявік «Кіборг-шпік».

**Серада, 6 ліпеня**

19.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.25 «Солтэк» прэзэнтуе: «Навіны».
19.30 «Хіл-стрыт Блюз».
20.20 БЕЛНЕКС паказвае фільм Дыснэя «Аладын». 3-я частка.
20.50 «Асьвячэньне стальца». Дак: фільм.
21.20 Астра-кляса.
21.45 БЕЛНЕКС паказвае маст. фільм «Ніка 6: зона сьмяротнай небясьпекі».

**Чацьвер, 7 ліпеня**

19.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.30 «Лябірынт правасудзьдзя».
20.20 БЕЛНЕКС паказвае мультфільм Дыснэя «Прыгажуня і страшыдла». 1-я частка.
20.50 Спартовая праграма «Файт».
21.10 БЕЛНЕКС паказвае маст. фільм Джона Ву «Куля ў галаву».

**Пятніца, 8 ліпеня**

19.00 Мультсэрыял «Вальтрон».
19.25 «Дорэміфасолькі».
19.35 Дайджэст праграмы «Жыцьцёвы выбар»: «Дзеці і астма».
20.00 Мультфільм «Прыгажуня і страшыдла». 2-я частка.
21.00 Foxy music (паўтор).
21.45 Маст. фільм з удзелам Брэндана Лі «Груган».

**Субота, 9 ліпеня**

17.00 Мультсэрыял «Трансформэры».
17.45 Казаньнік Кенэт Копленд.
19.15 «Затока Небясьпечная».
19.00 «Як маесься, дзядзька?»: А.Барыкін, Г.Багданаў.
19.30 «Кветка жарсьці».
21.00 «Солтэк» прэзэнтуе: «Спартовая мазаіка».
21.30 «Сем хвілінаў з »Хрыстафорам».
21.40 БЕЛНЕКС паказвае маст. фільм «Каханьне, здрада, крадзеж».

**Нядзеля, 10 ліпеня**

17.00 Мультсэрыял «Трансформэры».
18.05 «Солтэк» прэзэнтуе: «Тэлефэн», «Вуліца».
18.35 «Кветка жарсьці».
20.55 Пісьменьнікі-гумарысты.
21.05 Спорт-сакрэт.
21.20 БЕЛНЕКС паказвае кінакамэдыю «Малпа, якая размаўляе».
22.40 Foxy music.



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 4.07.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 962 Наклад 42 000.
п 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12